АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

18 — 24 СНЕЖНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 7000 РУБЛЁЎ
№51 (191)

МАЛАДЗЕЧНА

## Яшчэ адна ахвяра СНІДу

Колькасць ВІЧ–інфіцыраваных змянілася. Інфекцыя выяўлена яшчэ ў адной жанчыны. Прычым, цяжарнай. Тэрмін цяжарнасці не дазваляе рабіць аборт.

*Аддзел інфармацыі.*

МІНСК

## Да нас прыехаў рэвізор

ВІЛЕЙКА. На працягу 2 тыдняў у рай– і гарвыканкомах будзе працаваць рэвізор – перапісваць маёмасць, правяраць дакументацыю. Да 21 снежня ўсіх работнікаў мясцовай вертыкалі павінны пісьмова папярэдзіць аб звальненні.

Па звестках "РГ", з 17 работнікамі аб'яднаных структур новы кантракт можа быць не заключаны. Але звольненых працаўладкуюць на блізкія да ранейшых пасады.

Нагадаем, што 10 снежня 1998 г. прэзідэнт разгледзеў кадравыя пытанні. Ён даў згоду на назначэнне **Івана Шнітоўскага** старшынёй Вілейскага райвыканкома.

*Аддзел інфармацыі.*

ІВЯНЕЦ

## Кераміка ў цане

Нечаканым для завадчан стала вялікае павелічэнне попыту на прадукцыю іх завода мастацкай керамікі.

Толькі за тры першыя гадзіны работы аптова–гандлёвага рэспубліканскага кірмашу было заключана дагавораў на 13 мільярдаў рублёў. Астатнія патэнцыяльныя пакупнікі запісваліся ў чаргу.

*Таццяна АЛЯКСЕЕВА.*

СМАРГОНЬ

## Каб былі мы ўсе здаровыя

Праграму развіцця фізкультуры, спорту і турызму на 1998–2002 гады зацвердзіў мясцовы райвыканкам. У прыватнасці, прадугледжвасцца палепшыць фізвыхаванне дашкольнікаў і школьнікаў, навучэнцаў прафтэхвучылішча і тэхнікума, актывізаваць работу па месцы жыхарства.

Будзе аднаўлена пляцоўка тэніснага корта, абуладкаваная сцяжынка "Здароўе" ў гарадскім парку. У штаты прадпрыемстваў, калгасаў ды саўгасаў уводзяцца пасады інструктараў фізкультуры; адчыняцца клубы і групы фізічнай рэабілітацыі і сацыяльнай адаптацыі для інвалідаў.

*Павел МАКЛЮК.*

АСТРАВЕЦ

## "Альхоўка" перадсвяточная

На ААТ "Кардонная фабрыка "Альхоўка" работа ідзе кругласутачна ў тры змены. Але хутка фабрыка пойдзе на кароткія адпачынкі – гэта святкаванне Калядаў і Новага года.

– Такая мера не вымушаная, бо заказаў і сыравіны хапае, – гаворыць галоўны інжынер аб'яднання **Генадзь Бужымскі**. – Проста на фабрыцы выканалі план па прыбытку, а таму гэтыя дні канікулаў не адаб'юцца на дзейнасці фабрыкі адмоўна.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## У капліцы зручна памаліцца

Райвыканкам прадаставіў Свята–Пакроўскай царкве вёскі Залессе зямельны ўчастак памерам 0,2 гектара для будаўніцтва праваслаўнай капліцы.

Царкве будзе выдадзены Дзяржаўны акт на права пастаяннага карыстання зямлёй.

*Павел МАКЛЮК.*

АСТРАВЕЦ

## Падарункі польскіх гасцей

Падчас візіту на Астравеччыну генеральны консул Польшчы ў Гродне **Сільвестр Шостак** і сенатар польскага сейма **Тадэвуш Копач** пазнаёміліся з дзейнасцю аддзялення Саюза палякаў, дзе ў размове са старшынёй аддзялення **Чаславам Мацкевічам** абмяркоўваліся магчымасці выдзялення памяшкання для гэтай арганізацыі.

Напачатку сваёй дзейнасці аддзяленне арандавала памяшканне ў адным з будынкаў аўтапарка №4, але ад яго прыйшлося адмовіцца з–за вялікай арэнднай платы.

На развітанне польскія госці ўручылі для Астравецкага аддзялення падарункі – тэлевізар і спадарожнікавую антэну.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

СМАРГОНЬ

## Стыпендыі таленавітым

Старшыня райвыканкома **Мікалай Кавалёў** уручыў стыпендыі ў памеры 4 мільёнаў 200 тысяч рублёў 10 лепшым школьнікам Смаргоншчыны.

Гэтыя стыпендыі былі ўстаноўлены сёлета па рашэнні мясцовых уладаў. Атрымалі іх вучні 10–11 класаў; ёсць і 7–класніца Бялкоўшчынскай базавай школы – **Вольга Грэцкая**.

Райвыканком мае надзею, што стыпендыяты стануць студэнтамі ВНУ і вернуцца працаваць у раён. Дзеля гэтага маркуецца выдаваць лепшым мэтавыя накіраванні ў ВНУ.

*Павел МАКЛЮК.*

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ ВІЛЕЙЧАН

# Будзь прадавец у чыстым халаце

*Які магазін лепшы?*



*Мікалай КУРЫЛОВІЧ, галоўны ўрач стаматалагічнай паліклінікі:*

— Абслугоўваюць урачоў усюды добра. Але яны працуюць да 20 гадзін. Як узяць масла, яйкі і іншае дэфіцытнае харчаванне?..



*Людміла ЧАХОВІЧ, прадавец тэлемайстэрні:*

— Люблю хадзіць у дзевяты, нягледзячы на тое, што у 26-м выбар большы. Але дзевяты па дарозе з работы, гэта зручней.



*Леанід ШЫШПАР, выкладчык ПТВ-200:*

— Тая крама лепшая, дзе танней. А так розніца толькі ва ўзроўні прадаўцоў, дзе маладыя, там і лепш.



*Вольга КРОТ, беспрацоўная:*

— Самы лепшы магазін № 25, там заўсёды ёсць выбар, хлеб свежы. Чэргі не хвалююць, жыву без масла. Прадаўцы ветлівыя, абслугоўваюць добра.



*Алена ХАВАНСКАЯ, бухгалтар:*

— Надакучылі чэргі на самыя неабходныя прадукты. Добры магазін №26, таму што працуе да паўночы. Пажадана павялічыць асартымент прадуктаў. Хацелася б ад прадаўцоў больш ветлівасці і ўвагі.



*Галіна ДУРЭЙКА, ліфцёр-швейцар інтэрната № 2:*

— 25-ы — лепшы. Прадаўцы ветлівыя, акуратныя. Заўсёды ёсць самыя неабходныя прадукты харчавання, хлеб, крупы. Астатнія магазіны так сабе.



*Марына ЖОЎТКА, работ н і, капіравальнага цэнтра «Парус»:*

— Ні адзін не падабаецца. Пасля работы масла не магу купіць, у чэргах у магазінах кожны дзень стаяць адны і тыя ж людзі. Яек таксама немагчыма купіць... Хачу бачыць прадаўцоў ветлівымі і ў чыстых халатах.



*Фёдар ПАГУДА, эканаміст:*

— Падабаецца «Сняжынка». Ветлівыя прадаўцы.



*Вячаслаў КРОТ, урач-стаматолаг:*

— Ніякі не падабаецца. Усё дорага.

*Святлана ДЗЕМІДОВІЧ, прадавец магазіна № 2:*

— Усе магазіны «Лотас» добрыя, але найлепшы № 2. Самыя лепшыя, прыгожыя і ветлівыя прадаўцы. Люблю чэргі— выручка большая.

ФОТААПЫТАННЕ П.А.ПАРАЦЫ

САНЭПІД ІНФАРМУЕ

## Школа якога 1000–годдзя?

МАЛАДЗЕЧНА. На чарговай сесіі гарсавета дэпутатаў запланаваны разгляд пытання рэалізацыі комплекснай праграмы «Здароўе», прынятай яшчэ 23. 06. 1988 на перыяд да 2000 г.

У адрозненне ад іншых доўгатэрміновых праграм, прынятых у тыя гады, «Здароўе» выжыла і ў большай частцы аказалася рэалізаваным. Ход выканання штогод разглядаўся на выканкомах, у ліпені 1995 зацверджана праграма скарэктавана.

За мінулыя гады з зоны жылой забудовы мікраёна №4 вынесены 4 артсвідравіны, адноўлена агароджванне ахоўных зон артсвідравін, капрамонт памяшканняў станцый водазабору «Крыніца».

Рэканструяваная гарадская звалка і ўведзена ў эксплуатацыю І чарга новай, арганізаваная кантэйнерная ачыстка раёнаў шматпавярховай забудовы.

Праведзены капрамонты ў школах і ДДУ, створаны камбінат школьнага харчавання.

Аднак у поўным аб"ёме праграма засталася не рэалізаванай.

Так, для забеспячэння палавіны насельніцтва горада дабраякаснай пітной вадой неабходны ўвод у эксплуатацыю станцыі абязжалезвання вады на водазаборы «Гелянова» (утрыманне жалеза тут перавышае нормы ў 2 і болей разоў, а распачатае ў 1993 будаўніцтва праз 2 гады спынілі).

Толькі з цяперашняй восені пачалася будаўніцтва школы ў мікраёне №6 (каля 1500 дзяцей школьнага ўзросту), аднак перспектывы завяршэння будоўлі не вызначаны.

Гэта пры тым, што большасць школ горада працуе з перагрузкамі. Не адпавядае ўстаноўленым нормам нават стан камп"ютэрных класаў.

*Міхаіл ГРАБОЎСКІ, намеснік галоўнага ўрача МРЦГіЭ.*

СТАРЫ АЛЬБОМ

# Радзіма не забываецца



ЗДЫМАК З АРХІВА МІКАЛАЯ КАМСЮКА, ЧЫЯ МАЦІ БЫЛА СЯСТРОЙ СІДАРА ЧАРНЯЎСКАГА.

Першая сусветная вайна. Тылавыя часці царскай арміі размяшчаліся ў вёсцы Мікасецк, што за 10 кіламетраў ад перадавой (каля возера Нарач), і сюды далятаў грукат гармат, калі артылерыя варожых бакоў вяла дуэль.

У хаце з саламянай страхой і глінабітнай падлогай жыла сям'я Сідара і Альжбеты Чарняўскіх. І было ў іх 9 дзяцей – 6 сыноў і 3 дачкі. Перабіваліся з хлеба на квас. А тут новае гора: згарэла хата, ледзь паспелі жывымі выбрацца з агню. Вінаваты адзін салдат, які неасцярожна абышоўся з агнём. Царскія вайсковыя ўлады сплацілі селяніну за знішчаную маёмасць.

Куды падацца чалавеку? Пасяліцца ў брата Ягора? Ды ў таго самога чацвёра дзяцей. Цесна. Хтосьці параіў Сідару паехаць далей ад фронту, на заработкі ў Данбас, стаць шахцёрам. Рызыкнуў. Дарога ў невядомую мясціну была нялёгкая. У горадзе Юзаўка (потым Сталіна, а цяпер Данецк) апынуўся беларускі селянін, у якога былі рукі з мазалямі ад плуга, а трэба было набыць іншыя мазалі – шахцёрскія. Ці трэба гаварыць, якія цяжкасці зведала мнагадзетная сям'я? Вось толькі тое акружэнне, якое было ў Данбасе, спагадала перасяленцу з Беларусі, не дало загінуць, памерці з голаду. Сідар і Альжбета вучылі дзяцей чуласці, справядлівасці, любасці да працы, ашчаднасці. Выдаваліся вольныя хвіліны – і бацькі расказвалі сынам і дочкам, што далёка–далёка ёсць іх радзімая зямля, на якой гарадзішча Чорная Гара, рэчка Кубля, азёры Нарач, Мястра. Там жывуць іх дзядзькі і цёткі, стрыечныя браты, сёстры.

Былі рэвалюцыя, грамадзянская вайна. Потым вайна з белапалякамі, перамір'е і Рыжскі мір. На доўгія гады пралягла мяжа паміж братамі Сідарам і Ягорам. Ні пісем, ні тэлеграм з Украіны. У Мікасецку думалі, ці ўцалелі землякі ў віхуры грозных падзей.

Свой першы голас дзеці Сідара Чарняўскага падалі ў канцы 1939 года, калі адбылося ўз'яднанне былых заходніх часцей Беларусі і Украіны з БССР, УССР. Прыйшлі пісьмы, а потым Віктар і Усцін і самі прыехалі на радзіму, у Мікасецк, слухалі расказы і самі расказвалі пра пражытае. Вайна, пачатая ў 1941 годзе, зноў перапыніла сувязі. І толькі ў 1947 годзе большая група сыноў Сідара наведала радзіму. Тут пачулі іх расказы больш змястоўныя. Віктар працаваў інжынерам на азотным заводзе, Аляксандр – начальнікам шахты, Мікалай – дырэктарам хлебазавода, Юстын – загадчыкам камбіната бытавога абслугоўвання, Пётр – афіцэрам. Сёстры Ніна, Аня і Жэня набылі прафесіі па сваіх здольнасцях і жаданнях.

Працавітасць, сяброўства, павага да людзей дапамаглі нашым землякам з Беларусі заслужыць павагу, аўтарытэт і ўдалечыні ад радзімых мясцін.

Менш і менш становіцца саміх Сідарцоў. На змену бацькам прыйшлі іх сыны, дочкі, унукі. Напрыклад, у Аляксандра – пяцёра дзяцей. Усе маюць свае сем'і. Нашчадкі Сідара і Альжбеты Чарняўскіх ведаюць, адкуль іх карані. Прысылаюць сваякам на Мядзельшчыну пісьмы, віншаванні са святамі, юбілеямі. Што ні кажыце, а радзіма бацькоў дарагая, хоць і далёкая.

На здымку: Віктар і Аляксандр Чарняўскія (у капелюшах) у гацях у патомнага рыбака Васіля Булаўкі (сярэдзіна 70–х гадоў).

*Міхась ЧАРНЯЎСКІ.*

КУЛЬТУРА

# Маладзечна культурнае

### З юбілеямі!

11 снежня прайшоў урачысты канцэрт, прысвечаны 40–годдзю музвучылішча. Дарэчы, зусім нядаўна Рыгор Сарока адзначыў і свайго роду асабісты юбілей – 20 год, як ён узначальвае гэтую ўстанову.

### Весяліцеся

12 снежня ў памяшканні Дома культуры чыгуначнікаў Цэнтр эстэтычнага выхавання дзяцей і падлеткаў сустракаў прыхільнікаў КВЗ (інфармацыя на 3–й стар.).

Наступная гульня пройдзе тут жа 19 снежня а 15–й гадзіне.

### Ветэраны

13 снежня ў актавай зале палітэхнікума віншавалі клуб ветэранаў (матэрыял змешчаны ўнізе калонкі).

### Ранішнік

14 снежня ў памяшканні філіяла №3 гарадской дзіцячай бібліятэкі адбыўся першы ранішнік з навагодняга калейдаскопа для вучняў 1–4 класаў «Хутка, хутка Новы Год». Цяпер кожны панядзелак аж да 1999 года тут будуць праходзіць такія святы для малодшых школьнікаў. Пачатак – а 12–й гадзіне.

### Паэзія

16 снежня ў памяшканні цэнтральнай гарадской бібліятэкі прайшла «Гадзіна паэзіі», прысвечаная Адаму Міцкевічу.

*Ядвіга ЧАЕЎСКАЯ.*

# Жывы гук з правінцыі

ВАЛОЖЫН. У расійска–беларускім вечары паэзіі і песні, што прайшоў у Белдзяржфілармоніі, прымалі ўдзел валожынцы – кампазітар Уладзімір Гаркуша і спявак Аляксандр Шаўчэнка. Дарэчы, у адрозненне ад маскоўскіх і мінскіх эстрадных выканаўцаў, Аляксандр Шаўчэнка спяваў без фанаграмы.

*Таццяна АЛЯКСЕЕВА.*

# Гады – не бяда, была б душа малада

***МАЛАДЗЕЧНА. У мінулую нядзелю ў актавую залу палітэхнікума ішлі і ішлі людзі. Пажылыя, прыгожыя, са светлымі тварамі. 10–гадовы юбілей святкаваў клуб ветэранаў вайны і працы "Адпачынак", які дзейнічае ў ГДК.***

Кажуць, старасць не ўпрыгожвае чалавека. Але калі ўглядзецца пільна, то якія прыгожыя твары пажылых людзей. У іх, як на панарамным палатне мастака адлюстроўваецца ўсё самае–самае: радасць і боль, сіла і слабасць, мудрасць і непасрэднасць, час і бясконцасць. А як аб'яднаць, згуртаваць людзей аднолькавых па ўзросце, але розных па характары, адукацыі, узроўню культуры, прафесійных ведах?

– Безумоўна, гэта стварэнне аматарскіх аб'яднанняў, клубаў па інтарэсах для пажылых людзей,– такія словы вядучая адрасавала ветэранам.

10 год таму Марыя Баландзіна прапанавала стварыць у горадзе клуб для адзінокіх, пажылых людзей, ветэранаў вайны і працы. Яе падтрымала загадчыца аддзела культуры Надзея Сідарэнка і тадышні старшыня гарвыканкома Генадзь Карпенка.

З лістапада 1998–га наведвальнікаў клуба сустракае Марыя Баландзіна. Яна мае вялікія арганізатарскія здольнасці, змагла стварыць вялікую і дружную сям'ю.

Я бачыла, як хвалявалася яна, калі назірала за выступленнем сваіх выхаванцаў – танцавальнага калектыву школы–інтэрната для дзяцей з аслабленым зрокам, якія прыйшлі павіншаваць з юбілеем удзельнікаў клуба. Як усе парываліся пакінуць сваё месца на сцэне, каб дапамагчы апрануць дзяцей, нешта падправіць, даць парады. Гэта яе лад жыцця:

– Для маладых існуе шмат розных напрамкаў правядзення вольнага часу. А чаму мы, пажылыя людзі, павінны сядзець, склаўшы рукі? Чаму наш вопыт, веды, таленты часта застаюцца незапатрабаваныя?

Таленты ў членаў "Адпачынка" сапраўдныя. Узяць, прыкладам, хор клуба ветэранаў вайны і працы, якім кіруе Т. Прончанка. Яна вельмі клапоціцца пра тое, каб традыцыі харавых спеваў не зніклі ў горадзе, мелі сваё прадаўжэнне. Тму і здолела аб'яднаць людзей у адзін жывы арганізм – харавы калектыў, выступленні якога патрэбны людзям, бо дораць ім радасць, добры настрой, усмешкі.

Калі ў канцэртмайстра клуба Аляксандра Чарнышова спыталася, якія танцы часцей за ўсё яму выпадае іграць па жаданні ветэранаў, то пачула:

– Кадрыль!

Сакрэт гэтых людзей, мабыць, у тым, што яны – аптымісты. Жывуць, дыхаюць адным з намі паветрам, хварэюць, але не падаюць духам:

– За лекамі спяшаемся не ў аптэку. Лекі – гэта наш аптымізм,

бадзёрасць, добры настрой, сяброўская падтрымка.

Дарэчы, менавіта тое, што мы нярэдка губляем у штодзённай мітусні: і 20–гадовы юнак можа быць старым у душы, а вось сівы чалавек з маладым сэрцам, не такая ўжо і рэдкая з'ява.

Здароўя, даўгалецця, душэўнай спагады і цеплыні жадалі членам клуба ветэранаў вайны і працы "Адпачынак" намеснік старшыні гарвыканкома Данута Жук, работнікі аддзела культуры і ГДК, старшыня гарсавета ветэранаў вайны Мікалай Адашкевіч, старшыня Маладзечанскага аддзялення Фонду Міру Святлана Чыжыкава, удзельнікі народнага хору ветэранаў вайны і працы ДК чыгуначнікаў "Надзея".

***Людміла ЦАР,***
***спецыяліст аддзела культуры гарвыканкома.***

СМАРГОНСКІ БЮДЖЭТ

# Датацыі арганізацыям і грамадзянам

СМАРГОНЬ. Значныя нагрузкі нясе бюджэт раёна па фінансаванні гаспадарчых арганізацый – аб'яднання жыллёва–камунальнай гаспадаркі, аўтапарка №17, райпалівазбыту. За год такіх выдаткаў збіраецца каля 100 мільярдаў рублёў.

А інакш і нельга, бо, калі б адсутнічалі датацыі, то адна паездка ў гарадскім аўтобусе абышлася б у 5,2 тысячы рублёў замест цяперашніх 3, на прыгарадных маршрутах – 1200, а не 750 рублёў за кіламетр; за тону торфабрыкету чалавек павінен быў бы раскашэліцца на 1,9 мільёна замест сённяшніх 700 тысяч, вугалю – 3,2 мільёна замест 1,1.

Незалежна ад таго, прыватызаваная кватэра ці не, кожнай сям'і за двухпакаёўку з бюджэту даплачваецца штомесяц 1132 тысячы рублёў, а тым, хто жыве ў трохпакаёвай – 1621 тысяча рублёў, бо наша сённяшняя кватэрная плата пакрывае затраты толькі на 16%.

*Павел МАКЛЮК.*

# Дзяржава ў ролі «школьных» бацькоў

СМАРГОНЬ. Для таго, каб забяспечыць бясплатным харчаваннем школьнікаў на адзін дзень, неабходна зрасходаваць на гэта 145,7 мільёна рублёў, хоць норма на аднаго вучня – 14 тысяч рублёў – падаецца нязначнай.

Кошт утрымання аднаго дашкольніка ў садку ў лістападзе дасягнуў 2,7 мільёна рублёў у месяц, а бацькі пакрываюць усяго 10,9% ад затрат – ад 260 да 295 тысяч рублёў.

*Павел МАКЛЮК.*

# Дэфіцыт рублёў для хворых

СМАРГОНЬ. Ярка выражаную сацыяльную накіраванасць носіць тут раённы бюджэт. Амаль кожны другі рубель з яго выдаткоўваецца на патрэбы адукацыі – гэта 178 мільярдаў рублёў за год.

Для патрэб аховы здароўя набыта нямала сучаснай дыягнастычнай і лячэбнай апаратуры замежнай вытворчасці. Плануецца ўвесці ў строй рэабілітацыйнае аддзяленне на 40 ложкаў. І хоць на медыкаменты накіроўваецца з бюджэту ў месяц больш чым па 1,1 мільярда рублёў, усё адно адчуваецца іх дэфіцыт. Дзень знаходжання хворага ў стацыянары каштуе па медыкаментах 40,8 тысячы рублёў, па харчаванні – 65,8 тысячы.

*Павел МАКЛЮК.*

*Футбол*

# Хавалі вочы пасля паражэнняў

***Пра мінулы футбольны чэмпіянат свае думкі выказалі спецыялісты, журналісты, аматары. Прапануем уражанні гульца ФК "Маладзечна" Віталя Казяка.***

**– Якую адзнаку дасце мінуламу сезону?**

– Ён быў вельмі складаны для нашай каманды. Вынік мы маглі атрымаць толькі шляхам найвялікшай самаадданасці. А для гэтага трэба мець належную фізічную падрыхтоўку, якой нам і не хапала з–за непаўнацэннага міжсезоння.

**– Магчыма, апошняе з'яўляецца таксама прычынай таго, што вы ў апошнім чэмпіянаце атрымалі аж шэсць жоўтых картак?**

– Так. Калі не паспяваеш за супернікам, то даводзіцца спыняць яго з парушэннем правілаў. Справа ў тым, што я нікому не магу дазволіць абысці мяне.

**– Вы адчувалі падтрымку балельшчыкаў?**

– У час гульні не звяртаеш увагу на рэплікі з трыбун. А пасля... Калі каманда прайграе, то, калі ідзеш па вуліцы, сорамна глядзець людзям у вочы. Нават боязна выходзіць з дому. Цяпер футбалісты ФК "Маладзечна" могуць не хвалявацца – усё ж засталіся ў вышэйшай лізе.

**– Дзе збіраецеся гуляць у наступным сезоне?**

– Пакуль ніякіх прапаноў ад іншых каманд у мяне няма. Хочацца, натуральна, гуляць тут, у родным горадзе. Але трэба, каб у ФК "Маладзечна" стварылі больш–менш належныя ўмовы.

**"РГ" жадае поспехаў у наступным сезоне Віталю Казяку і яго камандзе.**

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

## Работа над памылкамі

Крыху папрацуем над тэхнічнымі недарэчнасцямі статыстычнага матэрыялу з мінулага нумара. Такім чынам, паказчыкі варатара **Сяргея Шалая**: 35 матчаў, 45 прапушчаных галоў. Што тычыцца галоўных трэнераў **Юрыя Лукіна** і **Юрыя Мартынава**, то, адпаведна, тры паражэнні з розніцай мячоў 3-10 і адно паражэнне з розніцай 1-3.

## Прапусцілі

З–за тэхнічнага збою пры вызначэнні ў мінулым нумары сімвалічнай зборнай ФК «Маладзечна»–"92–"98 на пазіцыі пярэдняга абаронцы быў прапушчаны **Клімовіч**.

Першым увагу рэдакцыі на гэта звярнуў трэнер **К. Харламаў**. Ён таксама без ваганняў прапанаваў «запоўніць месца» Клімовічам.

Вяжэвіч У. Макоўскі
Лявіцкі
Казяк М. Макоўскі
Сінкавец
Клімовіч
Гоманаў Кучук
Лебедзеў
Абрамовіч

Вось удакладнены варыянт «ідэальнай» маладзечанскай каманды.

*Міжсезонне*

# ФК "Маладзечна". Навіны

**Аляксандр Лебедзеў** у гутарцы з карэспандэнтам сказаў, што мае прапанову ад нейкага клуба. Пра нейкія падрабязнасці ён гаварыць адмовіўся («Ранавата!»), але па нашай інфармацыі – гэта каманда з Прыбалтыкі.

– Ехаць з Маладзечна не хочацца, але трэба. Тут жа нічога няма! – гаворыць футбаліст.

Вызначаны "кошт" (лічбы трымаюць у сакрэце) **Віталя Міхалёва**. Нагадаем, што ім цікавіцца бабруйская "Белшына", але абодва бакі пакуль не прыйшлі да згоды. Сам футбаліст цяпер трэніруецца ў Мінску.

**Аляксандр Андросік** знаходзіўся на праглядзе ў "Таўрыі" (Сімферопаль). Ёсць звесткі, што яго запрашаюць туды паўторна на збор каманды.

Галоўнага трэнера ФК "Маладзечна" **Леаніда Кучука** запрашаюць працаваць у "Тарпеда" (Мінск).

Дырэктар ФК "Маладзечна" **Юрый Лукін** гаворыць, што справы з яго праектам аб адзіным клубе знаходзяцца "у падвешаным стане". Штодзень ён робіць візіты да старшыні гарвыканкома **С. Татарыновіча**, каб пазначыўся нейкі зрух.

*Юлія ВАНСЛАЎ.*

*Здаровы лад жыцця*

# Маладзечанцы – лепшыя ў рэспубліцы



МАЛАДЗЕЧНА. Некалькі тыдняў таму прайшоў чэмпіянат вобласці па мнагаборстве "Здароўе" сярод сямейных каманд. Удзельнікі змагаліся на стрэльбішчы (пнеўматычная вінтоўка, 10 м), дарожцы басейна (вольны стыль, 50 м) і выконвалі гімнастычныя практыкаванні.

Ва ўсіх пяці намінацыях перамаглі мясцовыя спартсмены і атрымалі права прадстаўляць Міншчыну на рэспубліканскім першынстве ў Лідзе.

Усе маладзечанцы вярнуліся з медалямі. А яшчэ прывезлі прыгожы кубак за камандную перамогу. Першыя месцы занялі двое сем'яў. **Кавалёвы** (фармальна прадстаўлялі раён, астатнія ж - горад): **Аляксандр-Галіна і Анастасія** (намінацыя двое бацькоў і адзін з дзяцей - 2+1). **Малахавы**: **Мікалай** і **Паліна** (бацька+1). Астатнія былі другімі. **Кошалевы**: **Святлана і Алеся** (маці+1). **Антонавы**: **Уладзіслаў і Ілля -Алег** (1+2). **Ведзякіны**: **Мікалай-Алена** (толькі бацькі).

Сапернікі былі моцныя. Але такога роўнага складу ніхто не меў. Адзначу, што Малахавы і Антонавы дэбютавалі на такім узроўні. Апошнія прайгралі толькі сям'і, сыны ў якой - чэмпіёны свету па міжнароднай версіі мнагаборства - паліятлоне.

На жаль, сярод сем'яў найвышэйшыя спаборніцтвы - рэспубліканскія. Далейшай перспектывы няма.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Баскетбол*

# Саступілі гаспадарам

БАРЫСАЎ. Тут прайшлі фінальныя турніры чэмпіянату вобласці. Перамаглі абедзве каманды гаспадароў.

Сярод мужчын вілейчане былі трэцімі, саступіўшы прадстаўнікам Слуцка і абыграўшы каманду Лагойска. А жанчыны ўзялі верх над саперніцамі з таго ж Лагойска і Капыля. Занялі другое месца. Летась яны былі трэцімі, а пазалетась наогул чэмпіёнкамі. Трэніруе вілейскія каманды **Іосіф Іваноўскі**.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Валейбол*

# Кубак адкрыцця сезона

ВІЛЕЙКА. Напрыканцы лістапада ў гасціннай спартзале ПТВ-48 прайшоў традыцыйны турнір па валейболе, у якім бралі ўдзел пяць каманд.

Першае месца пасля доўгага перапынку заняў калектыў мебельнай фабрыкі, за які выступалі **Юрый Цылько, Генадзь Бахар, Юрый Місюль, Ігар Дубяга, Алег Савіцкі** і іншыя. Дарэчы, дырэктар прадпрыемства **Анатоль Драздоў** таксама добра гуляе ў валейбол і з'яўляецца членам Клуба аматараў гэтага віду спорту. На другой пазіцыі каманда ДРБУ-102. Адзначу яе капітана **Сяргея Бірука**, намаганнямі якога прафком дарожнікаў вылучыў сродкі для набыцця мячоў і спартыўнай формы. Трэцяе месца заваяваў дружны калектыў вайсковай часткі 49390 на чале з капітанам **Лявонціем Адаменкам**. Чацвертай стала каманда завода "Зеніт", які спансіраваў прызы лепшым гульцам. Пятыя - прадстаўнікі школы-інтэрната.

Прызы атрымалі Юрый Цылько, **Уладзімір Жук** (ДРБУ-102) і Лявонцій Адаменка.

Клуб аматараў валейбола распачаў сваю дзейнасць у 1984 годзе. Яго наведваюць людзі самага рознага ўзросту і прафесій. І кожны імкнецца нечым дапамагчы: хто фарбай, хто лямпамі для асвятлення...

Спаборніцтвы маглі набыць статут міжнародных (гэта ў Вілейцы ды па валейболе!), але з-за фінансавых цяжкасцяў не прыехала каманда горада Ільічэўска з Украіны. Цяпер іх чакаюць тут у сярэдзіне студзеня, калі плануецца правесці Калядны турнір.

*Віктар БАРАНОЎСКІ, старшыня клуба аматараў валейбола.*

**Ад рэдакцыі**: аўтар допіса працуе выкладчыкам фізкультуры ў ПТВ-48, майстар спорту СССР па акрабатыцы.

*Міні-футбол*

# Іх яднае "Фан-ліга"

"Металург" з Беразінскага, маладзечанскі ЗЛМК і вілейская "Вілія" бяруць удзел у чацвертым розыгрышы папулярнага турніру па міні-футболе. Матчы праходзяць па выхадных на прасторнай гандбольнай пляцоўцы армейскага Палаца спорту ва Уруччы.

Практычна ўсе сапернікі з Мінска. Спачатку сустрэчы ідуць у чатырох групах па семвосем каманд. Працягнуцца да лютага. Потым па чатыры мацнейшыя трапяць у плэй-оф. Нашы землякі гуляюць у розных групах. Вось якія сустрэчы ўжо праведзены.

**"Металург"** - "Сквірэл" 5:2, "Грырус" 6:2, "Абсалют" 4:0, БДПА 4:4. Пакуль ідуць на першым месцы, але патэнцыяльны лідэр - "Валента".

За беразінцаў выступаюць такія знаёмыя па "Забудове" асобы, як галкіпер **Сяргей Будрык,** нападаючыя **Вячаслаў Ваўчок** і **Аляксандр Макей**. Апошні з'яўляецца адным з лепшых бамбардзіраў лігі, забіў 9 галоў. Напомнім, беразінцы рыхтуюцца дэбютаваць у чэмпіянаце вобласці па вялікім футболе. Дарэчы, іх спансіруе не толькі Першы (дырэктар - **Дзмітрый Рындзевіч**), але і Другі трубны завод "Рамас" (дырэктар - **Юрый Ясніцкі**). Трэніруе каманду і наогул адказвае за спартыўнае жыццё на прадпрыемстве **Канстанцін Харламаў**. У свой час ён працаваў у маладзечанскай ДЮСШ, вырасціў **Аляксандра Вяжэвіча**. **Аляксандр Гармаза, Дзмітрый Нядзелька** і **Касцюкевіч** таксама яго выхаванцы. Дапамагаў у рабоце з "Маладзечнам" **Сяргею Бароўскаму**, пасля ад'езду якога колькі месяцаў узначальваў нашу вядучую каманду да з'яўлення **Людаса Румбуціса**.

**ЗЛМК** - "Рыглі" 4:1, "Белпрамбудбанк" 2:2, "Аўтаўсама" 7:1, МДЛУ 1:0. Тая ж сітуацыя: першае месца, але і "Прамсувязь" і "Каджыя" могуць абагнаць. Сёлетні чэмпіён Маладзечна па міні-футболе ўзмацніўся **Мікалаем Абрамовічам**. Спонсар, вядома, аднайменны завод (дырэктар - **Мікалай Чурсін**).

**"Вілія"** - "Белпрамвест" 2:4, "Сухарава" 3:2, "Ф'юджы фільм" 2:3, "Брэмінс" 6:2. З-за двух паражэнняў пакуль пятае месца, але патэнцыяльна каманда здольная ўзняцца вышэй. Палову складаюць футбалісты з Вілейкі, а палову маладзечанцы **Уладзімір Галубко, Аляксандр Гармаза, Сяргей Кабельскі, Аляксандр Лебедзеў, Дзмітрый Нядзелька, Сяргей і Уладзімір Карыцкі**. Спонсар – той самы **Пётр Губіч**, што падтрымлівае на плаву "Прадпрымальнік".

Будзем пастаянна сачыць за ходам падзей. Добра, што праводзіцца такі цікавы турнір, дзе могуць падтрымаць форму прафесійныя футбалісты, а побач з імі пагуляць аматары. Між іншым, каманда-пераможца атрымае ў прыз паездку ў Прагу.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

*Плаванне*

# «Кароткі» кубак краіны

БРЭСТ. На "кароткай" вадзе (даўжыня басейна 25 метраў) спаборнічалі лепшыя беларускія плыўцы, акрамя шасцёркі тых, каму ў гэты час патрэбна было ехаць на чэмпіянат Еўропы.

Наш зямляк, выхаванец маладзечанскай ДЮСШ **Віталь Барташэвіч** заняў трэцяе месца на дыстанцыі 200 метраў брасам з асабістым рэкордам. Яго час 2.21,53. Адстаў ад пераможцы на шэсць з паловай секунд. А ім быў нават не **Аляксандр Гукаў,** якому не ўдалося дацлыць да еўрапейскіх медалёў з часам 2.11,17.

У камандным заліку Мінская вобласць стала першай са значным адрывам. У яе моцны склад не прабіліся **Сяргей Канарэйкін** і **Алег Антонаў,** якія ўсё ж выступілі на турніры па-за конкурсам. Плылі адпаведна 200 метраў батэрфляем і 400 метраў вольным стылем. Прычым Сяргей фінішаваў другім, але, на жаль, дапусціў фальстарт.

Наперадзе, ў студзені, зімовы чэмпіянат рэспублікі. "Ванна" будзе вялікая, алімпійская, 50 метраў. Успомнім, летам Віталь тут быў пераможцам.

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*

## ГАРАСКОП 21 – 27 СНЕЖНЯ

**АВЕН (21.03-20.04)**
Добрыя дні 26, 27, важны – 22. Будзь уважлівы, калі маеш справы з асобай з–пад знака Скарпіёна, – можаш застацца падманутым.

**ЦЯЛЕЦ (21.04-21.05)**
Важны дзень 21. Гэты тыдзень прынясе табе шмат станоўчых эмоцый.

**БЛІЗНЯТЫ (22.05-21.06)**
Не скупіся на падарункі для родных, імкніся да душэўнага спакою.

**РАК (22.06-23.07)**
Кепскія дні 21, 22. У цябе з'явяцца цікавыя ідэі. Калі здзейсніш іх, то ў будучым цябе чакае вялікі поспех.

**ЛЕЎ (24.07-23.08)**
Кепскія дні 21–24. Магчыма ўскладненне адносін з калегамі, але, нягледзячы ні на што, старайся быць стрыманым.

**ДЗЕВА (24.08-23.09)**
Кепскія дні 23–25, важны – 26. Магчымая сустрэча з далёкім сваяком. У сям'і – мір і спакой.

**ШАЛІ (24.09-23.10)**
Кепскія дні 26, 27, важны – 25. Будзеш прыцягваць да сябе высокапастаўленых асоб.

**СКАРПІЁН (24.10-22.11)**
Важны дзень 24. Схільнасць да забаў, лёгкадумнасць могуць перашкодзіць табе на рабоце.

**СТРАЛЕЦ (23.11-21.12)**
Важны дзень 23. Не спадзявайся на чужыя парады, а рабі так, як лічыш патрэбным.

**КАЗЯРОГ (22.12-20.01)**
Добры дзень 21, важны – 22. На рабоце не ўсё будзе гладка.

**ВАДАЛЕЙ (21.01-19.02)**
Добрыя дні 21–23. Не будзь празмерна шчыры. Слухайся свайго ўнутранага голасу.

**РЫБЫ (20.02-20.03)**
Добрыя дні 23–26. Цябе спаткаюць дабрыня, міласэрнасць і надзея.

## СПРАВЫ ГРАШОВЫЯ

**17 снежня 1998 г.**

1. Курсы валют НБ РБ:

| | |
|---|---|
| Долар | 220000 |
| Марка | 132706 |
| Літ | 55 |
| Рас. рубель | 10680 |
| Злоты | 63073,39 |
| ЭКЮ | 260725,29 |

2. "Вулічныя" курсы куплі-продажу доляраў:

**240000 — 260000**



## РОЗНАЕ

### ПРАДАМ

- **ЭФЕКТЫЎНЫ СРОДАК АД ТАРАКАНАЎ І МУРАШОЎ, МЫШЭЙ І ПАЦУКОЎ. МАЛАДЗЕЧАНСКІ КІРМАШ, 13 РАД, 47 МЕСЦА.**
- **МЯККІ ВУГАЛ** новы; стол–кнігу. Т. у Маладзечне 71388.
- Пыласос, кухонны камбайн, электрачайнік. Усё новае, нядорага, гарантыя 1 год. Т. у Маладзечне 74516.
- **НОВУЮ АЎТАМАТЫЧНУЮ ПРАЛЬНУЮ МАШЫНУ ВЫТВ. КАРЭІ. Т. У МАЛАДЗЕЧНЕ 61688.**
- Кантэйнер марскі, 20 фут., уцеплены, + ацяпляльнік + падрамнік для ўстаноўкі на шасі груз а/м. Т. у Смаргоні 52211.
- Халадзільнік Мінск 15М, б/у. Т. у Маладзечне 51519 (пасля 18-00).
- 3-створчатую шафу з антрэсоллю, светлую, б/у. Т. у Маладзечне 39237.
- Вокны, балконныя дзверы. Т. у Маладзечне 53557.
- Эл. воданагравальнік "Генерал" на 50 л.; тры тэрмарэгулятары. Т. у Маладзечне 37454.
- Аўдыё-відэа-тэхніку Panasonic/Technics пад заказ. Т. у Маладзечне 54979.
- ЧБ тэлевізар Верас 31WT-410 Е/Д, 50 ум. адз. Т. у Маладзечне 75039.
- УП "Радыётэхніка УП-001" з калонкамі (б/у), дэку Technics-RS-TR-373 (б/у), пкд Technics-SL-PG-370 (б/у), пліту газавую 2-канфорачную настольную. Т. у Маладзечне 54979.
- Ложкі двухспальныя, наразныя, дуб, ясень. Т. у Маладзечне 33787.
- **МЯККІ ВУГАЛ** новы, велюр, 5 прадметаў, 260 ум. адз. Т. у Маладзечне 67100.
- Два крэслы ў добрым стане, б/у. Т. у Маладзечне 68747.
- Жаночыя зімовыя боты, айчынныя, чорныя, без абцаса, р. 24.5, нядорага. Т. у Маладзечне 65307 (з 10-00).
- Дзіцячую імпартную прагулачную каляску, б/у. Т. у Вілейцы 52888.
- Секцыю Струмок. Т. у Маладзечне 52564 (пасля 19-00).
- Вясельную сукенку. Т. у Астраўцы 26536.
- Кабылу, цана дагаворная. Т. у Смаргоні 94580.
- Слыхавы апарат Bosch, новы. Т. у Маладзечне 66969.
- Секцыю Іпуць, новая, ва ўпакоўцы. Т. у Маладзечне 62864.
- Вясельную сукенку, пам. 44–48, па дагаворнай цане, або здам напракат. Т. у Маладзечне 60065.
- Секцыю Іпуць, 5–прадметная, новая. Т. у Маладзечне 69831.
- Секцыю з шафай, паліраваныя, б/у, нядорага. Т. у Маладзечне 54913.
- Швейную машынку Zinger, нажная; сячкарню; конскую вупраж. Т. у Вілейцы 58462.
- Пральную машыну, паўаўтамат, загрузка вертыкальная, сушку для бялізны. Усё вытворчасці Італіі. Т. у Валожыне 58299.
- Ланцугі кароткія і доўгія (10 м) для навязвання жывёлы. Сячэнне дроту 3–4 мм. Мядзельскі р–н, в. Буйкі, С. Б. Драгун.
- Сервант, б/у. Т. у Маладзечне 64332.
- Лодку Фарэль, матацыкл ММВЗ (Мінск). Т. у Вілейцы 57493.
- Стэрэасістэму Panasonic SC-CH 75 (5 дыскаў, караоке, таймер і г. д.), шматфункцыянальная. Т. у Маладзечне 31477.
- Кававарку Helikon (Нямеччына), б/у, у добрым стане. Т. у Маладзечне 67254.
- Воданагравальнік праточны Атмор. Т. у Мінску 2477156.
- Замок кодавы механічны. Т. у Мінску 2477156.
- Гандлёвае абсталяванне, б/у, выдатны стан, нядорага. Т. у Маладзечне 68185.
- Новы м/вугал, 3 + 2 + 1, 390 ум. адз. Т. у Маладзечне 36342.
- Маразільнік, халадзільнік Атлант М, новыя. Т. у Маладзечне 67130.
- Вароты гаражныя. Т. у Маладзечне 32394.
- 2–ярусны дзіцячы ложак. Т. у Маладзечне 77759.
- **ПАЛАТКІ ГАНДЛЁВЫЯ**. Т. у Маладзечне 64077.
- Ружжо ТОЗ БМ16, 16 калібр. Т. у Маладзечне 63211, Алег.
- Пральную машыну Ісець (новая), электрафон Мелодыя–стэрэа, узмацняльнік Вега, магнітафон 2–касетны Нота, персідскага ката. Т. у Маладзечне 63871.
- Пліты газавыя, рознай мадыфікацыі, Брэст, новыя, ва ўпакоўцы. Т. у Маладзечне 68775.
- Клавішы Ямаха PSS-51, тэрмінова, нядорага. Т. у Астраўцы 22928.
- Вітрыну шкляную. Т. у Вілейцы 55050 (пасля 17–00).
- Кацёл на вадкім паліве; шафу дубовую. Т. у Маладзечне 28379 (пасля 20-00).
- Пральную машыну п/аўтамат, імпартную, 120 ум. адз. Т. у Маладзечне 36958.
- **ПАСТАЯННА** ў продажы ў вялікім асартыменце розных колераў **ДЗІЦЯЧЫЯ КАЛЯСКІ**. Цэны ніжэйшыя за рыначныя. Т. у Маладзечне 63244.
- Шчанюка нямецкай аўчаркі (кабель), 2,5 месяца, прышчэпка, 60 ум. адз. Т. у Вілейцы 57439.
- Вагі лабараторныя, узорныя, раз'язныя, 4 разрады, тыпы НПО–5кг–4м. Т. у Вілейцы 56112.
- МЦ Panasonic, новы, танна. Т. у Маладзечне 39250.
- Музычную апаратуру, электрагітары і г. д. Т. у Маладзечне 54954.
- Спальню "Валошка". Т. у Маладзечне 71109 (раб.).

### КУПЛЮ

- Скуркі тхара. Т. у Маладзечне 31555.
- Тэлевізар, кінескоп, 42 см, б/у. Т. у Маладзечне 31555.
- Ружжо. Аднастволку не прапаноўваць. Т. у Маладзечне 53999, 69014.
- Куплю кабаноў, свіней жывой вагой. Т. у Мал. 54591.

### ІНШАЕ

- Рэпетытар па хіміі. Кантрольныя работы. Т. у Маладзечне 62426.
- Работа!!! Т. у Маладзечне 64235 (з 8-00 да 11-00).
- Вазьму ў добрыя рукі шчаня аўчаркі. Т. у Маладзечне 36862.
- **ПРЫВАБНЫ, АЛЕ НЕДАСВЕДЧАНЫ ФРАНЦУЗСКІ БУЛЬДОГ ШУКАЕ ДАСВЕДЧАНУЮ МАДАМ. Т. у Маладзечне 52953.**
- Хутка свята! Вы хочаце бачыць сваю каханую прыгожай і шчаслівай? Лепшы падарунак – элітная, дарагая касметыка. Т. у Вілейцы 56786.
- Пасведчанне ўдзельніка ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС серыя А №322303 Кандрацэнкі Мікалая Васільевіча лічыць несапраўдным.
- Лепшы падарунак да Новага года- шчаня шар-пея! Нядорага. Тэл. у Маладзечне 76802.



## ЗНАЁМСТВЫ

**Вы хочаце пазнаёміцца?** *"РГ" з задавальненнем змесціць вашу аб'яву, але пры ўмове, што ў ёй будзе ўказаны ваш адрас да запатрабавання. Канкрэтныя адрасы, па якіх жывуць нашы чытычы, у аб'явах такога зместу мы стараемся не публікаваць.* **Рэдакцыя.**

Жанчына, 50 год, жадаю пазнаёміцца з мужчынам сваіх гадоў, без дрэнных звычак, жыллём забяспечаная як у горадзе, так і ў вёсцы. Маладзечна–6, П–IV-ВН №538411.

Дзяўчына, 35/165/60, в/а, без ш/зв., інвалід III гр., клапатлівая, добрая, верная, пазнаёміцца з разумным мужчынам для стварэння сям'і. Калі ласка, напішыце ваша прозвішча і адрас. 222310 Мінская вобл., Маладзечна–6, д/з, п/п №641398.

34/174/72, спакойны, без ш/зв., пазнаёмлюся з простай, прыстойнай жанчынай, можна з дзіцем. 222310 Маладзечна–1, д/з №0080559.

Пазнаёмлюся з простай гаспадарлівай жанчынай, можна з дзіцем, з сельскай мясцовасці. Пра сябе: 34/158, добры, працавіты, у шлюбе не быў, маю сваю гаспадарку. Маладзечна–6, д/з МС0242984.

Пазнаёмлюся з простым, добрым, раней не судзімым мужчынам, які не п'е, раней не быў у шлюбе, не старэйшым за 35 год. Мне 30 год. Дачка–школьніца. Жыву ў Маладзечне, рост 164. Адкажу на ліст з фота і поўным адрасам. Маладзечна–4, д/з, п/п МС0248679.

## ВІНШАВАНКІ

Віншуем **Таццяну Вілімок** з днём нараджэння! Жадаем здароўя, удачы, цеплыні. Каб беды–нягоды згарэлі датла. Каб быў настрой заўжды харошы, каб заўсягды вяліся грошы!

**Валерка!** Віншую з днём нараджэння. Жадаю ўдачы. ***Прывітанне з плошчы "8 Сакавіка".***

Віншую дарагую мамачку **Галіну Дзям'янаўну Бурачонак** з днём нараджэння. От всей души без многословья желаю счастья и здоровья. И благ желаю всех земных. Я знаю: ты достойна их. ***Сын Ігар.***

Паважаная **Галіна Дзям'янаўна Бурачонак**! Віншуем Вас з днём нараджэння. Няхай для Вас заўжды раніца будзе добрая, дзень – радасны, вечар – прыемны, ноч – спакойная, а жыццё – доўгае і шчаслівае. ***Люда і Наташа з Вілейкі.***

Дарагі ўнучак **Саша Міхасенка**! 21 снежня твой дзень нараджэння – пятнаццаціговоддзе. Дай Бог добрага здароўя, шчасця, поспехаў у вучобе, ніколі не забывай пра блізкіх, клапаціся па магчымасці. ***Дзядуля Віктар, бабуля Ганна Міхасенкі.***

Дарагая **Вераніка Станіславаўна Шлыковіч**! Віншуем цябе з 50–годдзем. Хай адыдуць прэч хваробы і трывогі, просім Бога, каб жыццё тваё бярог, каб заўсёды нас прыводзілі дарогі на знаёмы бацькоўскі парог. ***Сын, дачка, нявестка, унук.***

Дарагі **Геворг**! Віншую цябе з днём нараджэння. Жадаю шчасця, здароўя, матэрыяльнага дабрабыту. ***Іра.***

Дарагія **бацькі Леанід і Валянціна Дыцэвічы, бабуля Зіна**. Віншуем вас з надыходзячым Новым Годам. Жадаем вам моцнага здароўя, шчасця, дабрабыту. ***Таццяна і Вольга.***

**Аксаначка!** Жадаем шчасця і цяпла, сяброў сардэчных і дабра. Жыць шчодра, весела і смела, смяяцца, песні пець, любіць... ***Мама, сястрычка.***

## РОЗНАЕ

Шчыры дзякуй усяму медперсаналу Вілейскага анкадыспансера за добрасумленныя адносіны да хворых. ***Фёдарава.***

**51 КУПОН для бясплатнай аб'явы**

Бясплатна змяшчаюцца аб'явы **толькі ў рубрыкі "Знаёмствы" і віншаванкі** аб'ёмам да 15 слоў. **Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце разборліва.**

тэкст аб'явы

Рэгіянальная газета

Прозвішча, імя, адрас (не для друку):

**НАДВОР'Е Ў ВЫХАДНЫЯ**

| | 19.12 | 20.12 |
|---|---|---|
| МІНСК | -2°C- 11°C | -5°C- -13°C |
| ВІЛЬНЯ | -3°C- +3°C | -3°C- -8°C |

# ТРАНСПАРТ

**ПРАДАЕЦЦА АЎДЗІ–80,** дызель, 82 г. в., на хаду, замена поршневай — 9.98 г., падагрэў бака, ацынкаваны кузаў, $1200. **Т. у Вілейцы 55029.**

**ПРАДАМ ФОРД—СІЕРА,** 12 мес. 83 г., 1,6 бензін, ідэальны стан, растаможаны, 1950 ум. адз. **Тэл. у Маладзечне 77263, 35591.**

**Прадам ФВ—Джэта,** 86 г. в., 1,6 турба–дызель; **ФВ—Гольф,** 86 г. в., 1,6 дызель. Аўто знаходзяцца настаянцы ў Польшчы, па 2100 ум. адз. **Т. у Маладзечне 77263, 35591.**

## ПРАДАМ

● ФВ-Транспарцёр, 90 г. в., грузавы, белы; з/ч да Аўдзі-80, 83 г. в. Т. у Маладзечне 39259.

● Масквіч–408, 72 г. в., кузаў М–412, на хаду, можна на з/часткі; піяніна Беларусь (новае). Т. у Маладзечне 62400, 71022.

● **МІЦУБІСІ ПАДЖЭРО**, 94 г. в., V 3.0. Т. у Маладзечне 36423.

● VW-транспарцёр, турба-дызель. Т. у Маладзечне 74108.

● Гараж у ГК №12; КТ SONY Trinitron, 72 см., б/у; р/тэлефон SONYO б/у, 3 км. Т. у Маладзечне 52963, 67017.

● **ЗАПЧАСТКІ ДА АЎТАМАБІЛЯЎ:** Мерседэс 190Е, б/у: інжэктар, падвеска, дзверы ў зборы, крылы, фары, капот, рашотка, бамперы, навясное па рухавіку і інш.; Мерседэс 123: заднія крылы, дах, крышка багажніка, "стопы", шкло, дзверы і інш.; Форд-Скорпіё 2.5Д па запчастках. Т. у Маладзечне 39480, 32866.

● Форд-Сіера Седан, 89 г. в., 3300 ум. адз., торг. Т. у Валожыне 58647.

● ФВ-Гольф-2, 86 г. в., дызель, 5КПП. Т. у Маладзечне 98189.

● **ФОРД ТРАНЗІТ**, 96 г. в., турбадызель, V 2.5. Тэрмінова. Т. у Маладзечне 36423.

● Гольф-2, 83 г. в., 1.6Б. Т. у Маладзечне 69634.

● Гольф-2, 84 г. в., 1.6Б, 3-дзверны, 1750 ум. адз., торг; ФВ-Пасат, 90 г. в., 1.8. Т. у Маладзечне 32466.

● ВАЗ 21013, 83 г. в., тэрмінова, у добрым стане, 1100 ум. адз., торг. Т. у Маладзечне 68266.

● А/м М-2141, 92 г. в., 1100 ум. адз. Т. у Маладзечне 64983 (пасля 19-00).

● Аўдзі-80, 84 г. в., 1.8Б, выдатны стан, малы прабег + рухавік 1.6Б з навясным і КПП у добрым рабочым стане, або асобна. Т. у Маладзечне 95740.

● М-2140, М 408 па запчастках; з/ч да К-750, ВАЗ 2101. Т. у Маладзечне 36538.

● З/ч да Рэно-21. Т. у Маладзечне 73704.

● Форд-Сіера, 84 г. в., 5-дзверны, 1.6, бензін. Т. у Маладзечне 33565.

● Форд-Скорпіё, 2.5, дызель, 87 г. в., 3700 ум. адз.; ВАЗ 2105, 81 г. в., 1200 ум. адз. Т. у Маладзечне 33787.

● ФВ Венто, 93 г. в., ідэальны стан, 8400 ум. адз. Т. у Маладзечне 31836.

● Таўрыя, 96 г. в., ВАЗ 21063, 90-91 г. в., Опель-Амега, 88 г. в. Усё нядорага. Т. у Маладзечне 32222.

● Грузапасажырскі мікрааўтобус Форд-Транзіт, 87 г. в., дызель, 2.5, растаможаны. Т. у Маладзечне 37235 (з 18-00).

● Дызельны Фордаўскі рухавік, V1.6. Т. у Маладзечне 26328.

● ВАЗ 2105, 86 г. в., 1600 ум. адз. Т. у Маладзечне 65277.

● ГАЗ 24, 73 г. в., газ-бензін, цана па дамоўленасці. Т. у Маладзечне 76800.

● Форд-Сіеру, 84 г. в., 2л, бензін, у добрым стане, салон велюр, люк, цана па дамоўленасці. Т. у Вілейцы 54311.

● А/м УАЗ 33-03, 90 г. в., грузавы, цана па дамоўленасці. Т. у Вілейцы 54672 (раб.), 56233 (дам.).

● Зімняя рызіна R 13, б/у. Т. у Вілейцы 58465.

● Трактар Т-40АМ. Т. у Вілейцы 56476.

● Запарожац, тэрмінова, нядорага. Т. у Вілейцы 45341.

● М-2141-38, 94 г. в., цёмная вішня. Т. у Вілейцы 56071.

● А/м Аўдзі-80, 88-89 г. в. Т. у Вілейцы 58844.

● Мерседэс-200Д, 82 г. в., выдатны стан, 160 тыс. прабегу, растаможаны, 2800 ум. адз. Т. у Вілейцы 58086.

● А/м БМВ-320, 79 г. в., растаможаны, у выдатным стане, 1500 ум. адз, торг, Опель-Аскону, 85 г. в. па запчастках. Т. у Вілейцы 53533.

● А/м ВАЗ–21011, 78 г. в. Т. у Астраўцы 22966.

● А/м ВАЗ–2108, 87 г. в. Т. у Астраўцы 22595.

● ВАЗ 21011, 75 г. в., у выдатным стане. в. Насілава, вул. Чыгуначная, 1 (у любы час).

● А/м Рэно–19, 90 г. в., 132 тыс. км, тыдзень з Германії. Фаркоп, ABS, 100% растаможаны. Т. у Маладзечне 36432.

● А/м Сітраэн, 89 г. в., 100% растам., 4 месяцы з Германії, нядорага. Т. у Маладзечне 36432.

● Масквіч–412, у добрым стане, цана дагаворная. Т. у Маладзечне 77728.

● Аўдзі–100 на з/ч, дыз., 5 цыл., 80 г. в. Т. у Маладзечне 63141, 64925.

● Трактар Т–40, 86 г. в. Т. у Мядзеле 50042.

● ЗАЗ–966 В, 69 г. в. Т. у Маладзечне 67401, Гена.

● З/ч да Audi 100, turbo diesel, дакументы. Т. у Маладзечне 62403, Сяргей.

● Масквіч 2141, 90 г. в., 50000 км, гаражнае захоўванне, выдатны стан, 1300 ум. адз. Т. у Мінску (2)784591, у Маладзечне 31555.

● А/м Аўдзі–80, 88–89 г., дызель, з Германії. Т. у Маладзечне 52406.

● Шыны R14, 15, 14C. Т. у Маладзечне 75198.

● Л/а Масквіч Іж Комбі, 84 г. в., можна па запчастках; матацыкл Іж і Мінск па запчастках. Т. у Смаргоні 94580.

● Аўдзі 100, 88 г. і 90 г., растаможаны. Т. у Маладзечне 77287.

● Мерседэс 260Е, 124 куз. па запчастках. Т. у Маладзечне 30213.

● М/а Ераз; аўтамабілі Сітраэн БХ–14 і Победа па запчастках. Т. у Маладзечне 20496.

● Л/а Мерседэс 200D, 88 г. в., чорны металік; м/а Форд–Транзіт, 2,5D, 87 г. в., г/п. Т. у Маладзечне 31620.

● БМВ–525і, выдатны стан, усе навароты, нядорага. Т. у Маладзечне 36958.

● Масквіч 412, 91 г. + рухавік + КПП + шмат з/ч, 600 ум. адз. Т. у Маладзечне 75600.

● Форд–Скорпіё, газ–бензін, усе навароты, 2650 ум. адз. Т. у Маладзечне 74908, Саша.

● Іфа–Мультыкар, тасоп; матацыкл Мінск. Цана дагаворная, магчымы абмен або частковы бартэр. Т. у Маладзечне 64947.

● VW Гольф–1, 1,5D, па з/ч; VW Гольф–1, 81 г. в., 1,5D, 1200 ум. адз. Т. у Маладзечне 61223.

● А/м Аўдзі–100, 86 г. в., 2,2і; а/м Нісан, 87 г. в., 2,0Д. Т. у Маладзечне 37928.

● Аўдзі–80, 80 г. в., патрабуецца рамонт кузава, 1400 ум. адз., торг магчымы. Т. у Маладзечне 96324.

● Фольксваген–Гольф–3, 93 г. в., добры стан, цана дагаворная. Т. у Маладзечне 98195.

● Форт–Эскорт, 89 г. в., V1,4 бенз., 4 дзв., нерастаможаны, 1250 ум. адз.; Фольксваген Гольф, 87 г. в., 1300 ум. адз.; Isuzutroper, 87 г. в., V2300, 3 дзв., нерастаможаны, 3200 ум. адз.; пярэднія левыя дзверы і левае крыло да VW Пасат, 85–88 год. Т. у Вілейцы 58108.

● Опель–Кадэт, 86 г. в., серабрысты металік, седан. Т. у Маладзечне 76714.

● А/м Форд–Сіера, 88 г. в., 2.0 л, салон велюр, седан, у добрым стане. Т. у Маладзечне 51118.

● А/м VW Golf, 86 г. в., ЗАЗ 968, 93 г. в. Т. у Маладзечне 50566.

● Мазда–323F, 90 г. в., 1,6, 16 V, чырвоны, г/у руля, ц/з, велюр салон, муль–т–лок, 5–КПП, ахова картэра, аўдыё Піянер, растам., выдатны стан, 4600 ум. адз., літыя дыскі, новая рызіна, торг. Тэл. у Маладзечне 30047.

● А/м Опель–Аскона, 83 г. в., 1300 ум. адз. Т. у Маладзечне 61525.

● ВАЗ 2107, 91 г. в., у выдатным стане; касавы апарат Мікра–101. Т. у Маладзечне 53315 (пасля 19–00), 42928. ВАЗ 2103, 82 г. в., у выдатным стане. Т. у Маладзечне 33362.

● Газавае абсталяванне для а/м ВАЗ (новае), за 60 ум. адз. Т. у Маладзечне 51118.

● Міцубісі–галант 1985, белы, дызель.Т. у Смаргоні 93408.

● VW–Джэту, 1982 г., 1, 3Б, 4–дзвер., на з/п. Т. у Смаргоні 33250.

● Масквіч 412 иэ, 1980 г., ці раздзельна рухавік, падвеску, мост. Т. у Смаргоні 33250.

● Аўдзі–80 на з/п, пераходную.Т. у Смаргоні 34105.

● Аўдзі–80, 83 г., па з/ч. Т. у Смаргоні 36315.

● А/м GOLF, 86 года, 15 дзён з Германії, адзін гаспадар, бензін 1, 6 аб'ём, растаможаны, цудоўны стан, нябіты, нядорага. Т. у Вілейцы 53090.

● А/м Аўдзі–80, дызель, 1,6, 1983 г. в., растаможаны, з Германії. Т. у Вілейцы 53856.

● Форд–Сіеру–Універсал, 1984 г., 1,6, бензін. Т. у Вілейцы 58855.

● Кузаў да аўтамабіля ГАЗ–24, светла–блакітнага колеру. Т. у Вілейцы 61424.

● Волгу ГАЗ–24, 1981 г. выпуску, чорнага колеру, у добрым стане, бензін+газавае абсталяванне, 1500 ум. адз., торг. Т. у Вілейцы 61411.

● AUDI–100, 1987 г., карбюратар, цана 3700. Т. у Вілейцы 59017, 58677.

● ПЕЖО–405, 1989 г., дызель, цана 3800. Т. у Вілейцы 59017, 58677.

● Мерседэс 240D, 1982 г. в., за 2800 ум. адз., трактар МТЗ, за 1500 ум. адз. Т. у Вілейцы 66304, 66320, Віця, з 9–00 да 14–00.

● ФВ–Джэту, дызель, 85–86 г., 1,5 мес. у РБ. Т. у Маладзечне 33980.

● БМВ–324, дызель, 1987 г. в., растаможаны,, у выдатным стане, усе навароты. Т. у Маладзечне 54954.

● Мерседэс 240D, 1979 г. в., 1850 ум. адз., ці абмяняю на ВАЗ–2104–09 не старэй за 1988 г. Т. у Маладзечне 51775.

● М–2141 90г.в., 50 тыс.км., гаражнае захоўванне, выдатны стан, газавыя амартызатары, $1300. Т. у Маладзечне 31555, у Мінску 784591.

● Форд–Эскорт 89 г.в., 1,4, бензін, 5-дзверны, бардовы, растаможаны, зняты з уліку. Т. у Маладзечне 76802.

● Аудзі-100, 84-85 г., 1,8, бензін у выдатным стане. Т. у Вілейцы 52133.

## КУПЛЮ

● Куплю аўтамабільны пад'ёмнік. Т. у Смаргоні 52690, 22109.

## МЯНЯЮ

● Арганізацыя мяняе а/м ВАЗ 21215 Ніва, 95 г. в. на а/м з кузавам тыпу седан, не старэй за 6 год. Т. у Маладзечне 71202.

## ПАСЛУГІ

● Завязу за аўто. Прыганю пад заказ. Т. у Маладзечне 25440, Сяргей.

● **РАМОНТ!** Прыцірка клапанаў па амерыканскай тэхналогіі, амерыканскім інструментам NOUWEI. Т. у Маладзечне 39480, 32866.

● Прыганю пад заказ а/м. Т. у Маладзечне 79126.

● Паездкі за аўтамабілямі: Польшча, Германія. Т. у Маладзечне 52406.

● Вазьму спадарожнікаў у Польшчу за а/м . Т. у Маладзечне 74570 (Саша).

# НЕРУХОМАСЦЬ

## ПРАДАМ

● **ЗРУБ, 6x8, ЦАНА ДАГАВОРНАЯ. Т. У ВІЛЕЙЦЫ 57959 (ПАСЛЯ 17—00).**

● Дом, або мяняю. Маладзечна, вул. Лясная-3.

● 3-пакаёвую кватэру у п. Чысць. Т. (01773)99123.

● Дом у в. Маркава, гаспабудовы, сад, зямля. Т. у Маладзечне 68965.

● 3-пакаёвую кватэру, тэлефон, р-н "Бярозкі". Т. у Маладзечне 39237.

● Катэдж у Вілейцы. Т. у Вілейцы 54239, у Маладзечне 41423.

● 3-пакаёвую кватэру ў Смаргоні. Т. у Астраўцы 22053.

● 2-пакаёвую кватэру ў 6-м мікрараёне. Т. у Маладзечне 39259.

● Гараж з падвалам у кааператыве №2. Т. у Вілейцы 58545.

● Павільён у р-не ЗПМ. Т. у Маладзечне 33787.

● 2-павярховы катэдж у г. Нясвіжы, 85% гатоўнасці, усе камунікацыі. Т. у Нясвіжы (8-270) 53566.

● Дом у в. Гаўці Смаргонскага раёна. Т. у Маладзечне 52305.

● 3-пакаёвую кватэру у р-не ЗПМ, або мяняю на 2- ці 1-пакаёвую. Т. у Маладзечне 31506 (увечары).

● 2-пакаёвую кватэру ў 6-м м-не, 50/30/9.5, 9 пав. Т. у Маладзечне 51393 (пасля 18-00).

● Дом у в. Міцэвічы, 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы. Т. у Вілейцы 55123, 58227.

● Дом у Вілейцы, участак 17 сот. Т. у Вілейцы 52888.

● Гараж у Вілейцы. Т. у Вілейцы 55636.

● 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы. Т. у Вілейцы 57892.

● Дом, гаспабудовы. Т. у Астраўцы 20325.

● Гараж у кааператыве №24. Т. у Маладзечне 37781.

● 2–пак. кв–ру. Т. у Маладзечне 70905.

● **АРГАНІЗАЦЫЯ ПРАДАЕ БУДЫНАК МАГАЗІНА, ДОМ І ЎЧАСТАК** 0,12 га (вул. Купальская, 4, раён СШ №3); **НЕДАБУДАВАНЫ КАТЭДЖ** у канцы вул. Скарыны, за ГБК–21. Т. у Маладзечне 20162, 60509.

● 4–пак. кв–ру па вул. Маладзёжнай, 3 паверх, або памяняю на 1–пак. з даплатай. Т. у Маладзечне 71695.

● Дом або памяняю. Маладзечна, вул. Лясная–3.

● Капітальны гараж, падвал, каап. №28, раён могілак. Т. у Маладзечне 52129.

● 2–пак. кватэру. Т. у Маладзечне 77287.

● Гараж ГК–18. Т. у Маладзечне 63754.

● Аднапакаёвую кватэру. Агульная плошча 24,4, без выгод, у драўляным доме. Ёсць склеп, дзве паветкі, 3 соткі зямлі. Вёска Краснае, насупраць чыгуначнага вакзала. Т. у Маладзечне 71707.

## МЯНЯЮ

● Прыватызаваную 2-пакаёвую кватэру з пячным ацяпленнем на 1- 2-пакаёвую з выгодамі. Т. у Маладзечне 77901, 54379.

● 1-пакаёвую кватэру ў цэнтры Маладзечна на 1-пакаёвую ў Мінску. Т. у Вілейцы 55112.

● Трохпакаёвую прыватызаваную кв–ру на 1 + 1 або 1 + невялікі домік або 1 + даплата. Разгледзім любыя варыянты. Т. у Маладзечне 60309.

## ЗДАМ

● Дом без выгод у р-не атэлье "Бярозка", 15 ум. адз. Т. у Маладзечне 60825.

● Гараж. Прыпынак Здземелева. Т. у Маладзечне 26383.

● Двухпакаёвую кв–ру з тэлефонам у раёне аўтабазы №2. Т. у Маладзечне 75538.

● Двухпакаёвую кватэру. Т. у Маладзечне 53229 (пасля 17–00).

● Тэрмінова 3–пакаёвую кв. (Коласа 21, добраўпарадкаваная, 1 паверх). Зробім рамонт. Т. у г. Вятка (02330) 22189 дам., 21191 раб., Юра.

● 3–пак. кв. (4/9).Т. у Смаргоні 52647, з 8–00.

● Дом у вёсцы Лукавец, 50 км ад Вілейкі, 40 ад Мінска. Т. у Маладзечне 21128.

● Дом у в. Мільча Вілейскага р–на, гаспадарчыя пабудовы, лазня, 2 гаражы, участак 0,40 га, сад. Т. у Вілейцы 68398.

● Дом у Вілейцы, уч. 6 с., каналізацыя, водаправод, гараж, хлеў. Т. у Вілейцы 58111 (пасля 18–00).

● Здам частку дома у Маладзечне тэрмінова. Т. у Вілейцы 55375, у Мінску 783434.

## НАЙМУ

● Гараж у ГК №11 ці №24. Т. у Маладзечне 39423.

# ПАСЛУГІ

## ДЛЯ МАЛАДЫХ

● **ВЯСЕЛЬНЫ САЛОН.** Т. у Маладзечне 50362.

● **ЭКСКЛЮЗІЎНЫЯ ВЯСЕЛЬНЫЯ ЎБОРЫ.** Вэлюм, галінкі, пальчаткі, кольцы на а/м. Т. у Маладзечне 39293.

## ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

● Грузаперавозкі. СНД, РБ. М/а Мерседэс, да 2 тон. Ліц. АА №1–5577 МТіК ад 21.05.98 г. да 20.05.2003 г. Т. у Маладзечне 62336,67533.

## ІНШАЕ

● **НОВАЯ МЭБЛЯ**, танная, з дастаўкай. Т. у Маладзечне 36396.

● Зборка мэблі. Т. у Маладзечне 67443.

● Поўная ачыстка твару за 15 хвілін! Не толькі магчыма, але і даступна. Т. у Маладзечне 64235, 33318 (з 8-00 да 12-00, з 18-00 да 21-00).

● **ЭМАЛІРОЎКА ВАННАЎ.** Т. (017) 2277784.

● Дапаможам прыгатаваць і аформіць стол для вяселля і іншых урачыстасцяў. Т. у Маладзечне 61153 (19-00 - 21-00), Марына.

● Выканаем унутраныя аддзелачныя работы: сцяжка, шпакляванне, тынкаванне, абліцоўка пліткай сцен і падлогі, пабелка і інш. Т. у Маладзечне 32983 (з 9–00 да 17–00), Андрэй.

● Вырабім мяккую мэблю на заказ для дома і офіса. Абновім старую. Выбар абіўкі. Т. у Маладзечне 36342.

● Зборка мэблі, машынапісныя работы. Т. у Маладзечне 67443.

● Вяжу. Якасна. Хутка. Т. у Маладзечне 70965.



Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна: Маладзечна - 01773, Вілейка - 01771, Смаргонь - 01592, Ашмяны - 01593, Валожын - 01772, Мядзел - 01797, Астравец - 01591, Мінск - 017(2)


**Рэгіянальная газета**

ТЭЛЕФОНЫ/ФАКС: (01773) 6-96-67, 5-38-41
E-mail: region_news@usa.net
222310, Маладзечна, вул. Вялікі Гасцінец, 68а.

Заснавальнікі: Аляксандр МАНЦЭВІЧ, Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ, Ігар ВЕЙС, фірма «ФАВАРЫТ». Пасведчанне № 227.

Галоўны рэдактар **Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

Інфармацыйна-рэкламнае штотыднёвае выданне для рэгіёна і рэспублікі. Выходзіць па пятніцах. **Тыраж 10650 экз.** Індэкс **63212.** Падпіска праводзіцца пастаянна ў паштовых аддзяленнях рэспублікі. **Падпісная цана на месяц 20000 руб.** **№51 (191) 18-24.12.98.** Друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул.Таўлая,11. Зак. №. Падпісана ў друк 13.00 10.12.98.




**ПРЫЁМ ДРОБНЫХ АБ'ЯЎ**

**Маладзечна:** Вялікі Гасцінец, 68а (памяшканн былога Цэнтра метралогіі і стандартызацыі). **Тэл. 69667, 53841.**
**Вілейка:** гасцініца "Вілія", капіравальны цэнтр "Парус" **Тэл. 55194, 55284.**
**Смаргонь:** 1) Рэдакцыя "Новой газеты Сморгони", вул.Савецкая, 21; 2) магазін "Журавінка", "Фуджы-цэнтр". **Тэл. 33077, 51635.**
**Астравец: Тэл. 22109.**

Разліковы рахунак №3012101960012 у аддзяленні Белзнешэканамбанка ў Маладзечне, код 211, атрымальнік рэдакцыя "РГ"